УДК 821.161.3-1
ББК 84(4Беи)
Ч11

Фотаздымкі
Вальдэмара Квяткоўскага, Міры Лукшы

**Чыгрын, С.**
Ч11 Мора Віктара Шведа : артыкулы і гутаркі / Сяргей Чыгрын. — Мінск : Кнігазбор, 2015. — 32 с.
ISBN 978-985-7119-71-4.

Кніжку склалі матэрыялы, прысвечаныя жыццю і творчасці старэйшага беларускага паэта з Беластока (Польшча) Віктара Шведа, які 23 сакавіка 2015 года адзначыў сваё 90-годдзе.

**821.161.3-1**
**ББК 84(4Беи)**

**ISBN 978-985-7119-71-4**



## З біяграфіі Віктара Шведа

Віктар Швед нарадзіўся 23 сакавіка 1925 года ў вёсцы Мора Гайнаўскага павета (Польшча). Паэт, перакладчык, публіцыст, грамадскі дзеяч. Вучыўся ў беларускіх школах у Гайнаўцы і Бельску-Падляшскім (Польшча). Закончыў Акадэмію палітычных навук у Варшаве (1951), аддзяленне журналістыкі (1955) і аддзяленне беларускай філалогіі (1969) Варшаўскага ўніверсітэта.

Працаваў журналістам у беларускім тыднёвіку «Ніва» (Беласток), рэдактарам у выдавецтве «Książka i Wiedza» ў Варшаве (1960–1988). Пасля выхаду на пенсію жыве ў Беластоку.

Дэбютаваў 24 сакавіка 1957 г. вершам «Я беларус» у беларускім тыднёвіку «Ніва». Піша на беларускай і польскай мовах. Яго творы перакладаліся на англійскую, эсперанта, польскую, расійскую, украінскую і венгерскую мовы.

Апублікаваў 16 зборнікаў вершаў: «Жыццёвыя сцежкі» (Беласток, 1967), «Дзяцінства прыстань» (Беласток, 1975), «Дружба» (Мінск, 1976), «Мая зялёная Зубровія» (Мінск, 1990), «Родны схоў» (Беласток, 1991), «Вясёлка» (Беласток, 1991), «Вершы Натальцы» (Беласток, 1998), «Выбраныя вершы» (Беласток, 2000), «Мае Айчыны» (Беласток, 2003), «Смяшынкі» (Беласток, 2009), «Адплываем з Мора» (Беласток, 2010).

У перакладзе аўтара на польскую мову выйшлі кнігі: «Wiersze wybrane» (Białystok, 1997), «Lata wiatr skrzydlaty» (Białystok, 2000), «Śmiech nie grzech» (Białystok, 2000), «Przemijanie» (Białystok, 2006), «Śmieszynki» (Białystok, 2010).

Рэдактар выдання (у сааўтарстве з Яшам Буршам, Аляксандрам Баршчэўскім) «Белавежа. Літаратурны

альманах» (Беласток, 1965). Аўтар падручнікаў: «Дружба і праца. Хрэстаматыя для VIII класа» (у сааўтарстве з Аляксандрам Баршчэўскім, Варшава, 1967), «Насустрач жыццю. Хрэстаматыя для VIII класа» (у сааўтарстве з Аляксандрам Баршчэўскім, Варшава, 1974).

Перакладае з беларускай, рускай, украінскай моў на польскую, з польскай — на беларускую. Пераклаў з беларускай на польскую мову: Iwan Szubitydze «Opowieści poleskie» (Warszawa, 1973), з рускай на польскую: Aleksander Twardowski «Wiersze» (Moskwa, 1985), вершы расійскіх паэтаў для альбомнага выдання «Kult Najświętszej Bogurodzicy w Rosji» (Moskwa, Warszawa, 2010), з польскай на беларускую мову: Aleksandra Szewełło «Supraskiej duszy śpiewanie» (Białystok, 2003, 2010), Franciszek Lachocki «Polesie» (Bielsk Podlaski, 2010). Пераклаў 190 вершаў з беларускай мовы на польскую і з польскай на беларускую для двухмоўных польска-беларускіх анталогій «Gniazda słów — słowa gniazd, Białostocczyzna — Grodzieńszczyzna. Antologia poezji» (Białystok, 2006) і «Wiersze znad Narwi i Niemna, Białostocczyzna — Grodzieńszczyzna. Antologia poezji dla dzieci» (Białystok, 2006).

Былі выдадзены таксама «Васількі-валошкі» — дыск з песнямі на словы Віктара Шведа (Беласток, 2010) і аўдыябук з выбранай яго паэзіяй «Ten świat mnie oczarował... — audiobuk z poezją wybraną Wiktora Szweda» (Białystok, 2011) на беларускай і польскай мовах.

Яго вершы ўвесь час друкуюцца ў беластоцкім беларускім тыднёвіку «Ніва». На дзіцячай старонцы «Зорка» гэтага тыднёвіка аўтар вядзе пастаянную рубрыку «Вершы Віктара Шведа», а таксама публікуецца ў «Беларускіх календарах» (Беласток) і ў іншых выданнях Польшчы і Беларусі. Паэт правёў звыш тысячы аўтарскіх сустрэч. Многія творы Віктара Шведа пакладзены на музыку.

Сябар Саюза польскіх пісьменнікаў і Ганаровы сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў. Сузаснавальнік і шматгадовы старшыня Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа». Пастаянны сябар Беларускага грамадска-культурнага таварыства (БГКТ). У 1958–1969 і 1976–1988 гадах быў сябрам Галоўнага праўлення БГКТ, у 1958–1960 гадах — яго адказным сакратаром, а ў 1984–1988 гадах — сябрам Прэзідыума, з'яўляўся таксама сябрам розных камісій БГКТ.



Узнагароджаны Крыжамі Кавалерскім і Афіцэрскім Ордэна Адраджэння Польшчы, сярэбраным медалём «Заслужаны дзеяч культуры Gloria Artis», медалём Францішка Скарыны, адзнакай «Заслужаны дзеяч культуры Польшчы», нагрудным знакам «За ўклад у развіццё культуры Беларусі», ордэнам Святых Роўных Апосталам Кірылы і Мяфодзія, грамадскім ордэнам «За вернасць Бацькаўшчыне».

## Паэт верыць людзям і жыццю

*Да 90-годдзя з дня нараджэння*

Вёска Мора на Беласточчыне — гэта радзіма старэйшага беларускага паэта Віктара Шведа, якому 23 сакавіка 2015 года споўнілася 90 гадоў. Пяць гадоў таму мы трымалі ў руках яго прыгожую і шчырую кнігу вершаў «Адплываем з Мора». Ужо тады паэт адзначаў, што амаль усе яго сваякі з роднай вёскі Мора адплылі ў іншы свет, а цяпер наступае яго чарга. Я напісаў артыкул пра той зборнік вершаў і назваў яго «Адплываць з Мора яшчэ рана». Ды куды адплываць, калі наперадзе шмат спраў, планаў, літаратурных задумак і адкрыццяў. Эрнэст Хэмінгуэй некалі напісаў празаічны твор «Стары чалавек і мора». Калі б сёння жыў Хэмінгуэй і калі б ён сваё апавяданне прысвяціў Віктару Шведу, то назваў бы яго не інакш, як «Малады чалавек і Мора». Бо Віктар Швед, нягледзячы на свае дзевяць дзясяткаў гадоў, заўсёды малады, прыгожы, шчаслівы, натхнёны, — нам, маладзейшым літаратарам, застаецца толькі яму пазайздросціць, узяць з яго прыклад, навучыцца ў яго літаратуры і аптымізму.

А роднае Мора па-ранейшаму натхняе яго на новыя творы, вяртае ў маленства і юнацтва, якія не даюць яму старэць і падаць духам. Вось такі ён, Віктар Швед.

А яшчэ ён вельмі шчыры беларус. Пра гэта паэт адкрыта і публічна сказаў ажно ў 1957 годзе, калі ў беларускім тыднёвіку «Ніва» апублікаваў свой першы верш «Я — беларус». А потым пра тое, што ён — беларус, што мова наша беларуская, што мы павінны гэтым ганарыцца — паэт піша ў кожным сваім паэтычным зборніку. Нацыянальная тэма скразной лініяй праходзіць праз усю творчасць Віктара Шведа:

Мы жыць не хочам у няволі.
І беларускай роднай мовы
Не адцураемся ніколі.
Памерці за яе гатовы…

Віктар Швед — пясняр беларускай вёскі на Беласточчыне. Сваёй роднай вёсцы Мора ён прысвяціў дзясяткі паэтычных радкоў. Шмат настальгічных вершаў па вясковым маленстве і юнацтве, па тых гадах, калі беларуская вёска сапраўды была вялікай, гаманлівай, таленавітай, народнай і дружнай. Толькі сапраўдны паэт можа так апісаць вёску свайго маленства, як гэта рабіў неаднойчы Віктар Швед. Ну, скажыце, чым не хрэстаматыйныя радкі:

Дзедаўская хата
Поўна экспанатаў.
З карэння калыска,
Гліняная міска,
Драўляная лыжка,
Двайная гладышка,
Святыя іконы,
Круглы серп зублёны,
Вялікія кросны,
Кадаўбец дзівосны,
Каменныя жорны,
Дзяжа на хлеб чорны,
Стары калаўротак,



Са сноўніцай мотак,
Гладка качалка,
Крэсіва-запалка…

Віктар Швед са сваёй мілай спадарыняй Валянцінай — вельмі шчырыя, адкрытыя і адказныя ў любой справе людзі. З імі адчуваеш аптымізм, надзею і веру ў самае светлае і добрае. Аптымізм уласцівы і паэзіі Віктара Шведа. Не бяздумны, як, скажам, у вядомага героя вальтэраўскай аповесці «Кандыд» Панглоса з яго філасофіяй «Усё, што на свеце ні робіцца — на лепшае», а жыццёва дзейсны. І таму нам блізкі і зразумелы клопат паэта пра заўтрашні дзень Беларусі, роднай мовы, беларусаў, калі ён піша:

Таму сэрца маё суму поўнае,
Чаму так у нас бесталкова?
Чаму Беларусь рускамоўная,
Калі маем уласную мову?..

Дабрыня, шчырасць, інтэлігентнасць духу — вось тыя рысы, якія вызначаюць сёння характар лірычнага героя Віктара Шведа. Яны прысутнічаюць у зборніках вершаў «Жыццёвыя сцежкі» (1967), «Дзяцінства прыстань» (1975), «Дружба» (1976), «Мая зялёная Зубровія» (1990), «Родны схоў» (1991), «Wiersze wybrane» (1997), «Выбраныя вершы» (2000), «Lata wiatr skrzydlaty» (2000), «Мае Айчыны» (2003), «Адплываем з Мора» (2010) і ў іншых. Віктар Швед, не мудрагеліць ні ў выбары тэматыкі, ні ў пабудове сваіх вершаў. Ён заўсёды быў і застаецца прыхільнікам традыцыйнай паэзіі.

Чытаючы вершы Віктара Шведа, адчуваеш жывую душу чалавека, яго імкненне сказаць сваё запаветнае. Яго вершы абуджаюць думку і пачуццё. Паэтычны свет беларускага аўтара з Беластока — гэта свет сціпласці, стрыманых пачуццяў і замілавання някідкай прыгажосцю жыцця. Паэт — у лепшых і найбольш характэрных для яго творах — настройвае нас на хвалю нейкай асаблівай спагадлівасці, даверлівай шчырасці. З ім, з яго лірычным героем прыемна быць по-

бач: радавацца жыццю і пераажываць яго неўладкаванасць, верыць у шчасце, у будучыню, смуткаваць аб праляцелай маладосці і трывожыцца за будучыню не толькі Беларусі, а ўсяго свету, арганічна і проста быць сваім сярод людзей, сваім і пры нялёгкім успаміне, і ў хвіліну весялосці.

Паэт усё ж заўсёды верыць людзям і жыццю. Ён стараецца прапаведаваць шчырасць і натуральнасць чалавечых узаемаадносін і заўсёды горнецца душою да нас, яго чытачоў, запрашаючы да ўзаемнасці і паразумення.

Шмат вершаў Віктар Швед прысвяціў сваім землякам, сябрам, знакамітым беларусам, якія жывуць з ім побач і якіх даўно няма. Многіх ён асабіста ведаў, сустракаўся з імі, сябраваў. Праз яго паэтычныя радкі праходзяць такія асобы, як прафесар Васіль Белаказовіч, Васіль Быкаў, Кастусь Майсеня, Ада Чачуга, Яўген Міклашэўскі і дзясяткі іншых. Ён напісаў і апублікаваў шэраг артыкулаў-успамінаў пра тых людзей, якіх ведаў у Польшчы, Беларусі і ў іншых краінах свету.

Віктар Швед у сваіх вершах заўсёды паэтызуе пагодненасць сэрцаў, узаемны давер і рашуча адмаўляе няшчырасць і здраду. Без суладдзя з дабратой, чалавечнасцю для яго немагчымы свет, разбураюцца сувязі не толькі паміж людзьмі, але і паміж чалавекам і прыродай:

Калі цябе не любяць людзі,
Дык ты нікога не віні.
Адмоўна аб табе ўсе судзяць,
Бо ты пазбаўлен дабрыні.

Шмат паэтычных радкоў Віктар Швед прысвяціў дзецям. З друку выйшлі яго кнігі вершаў «Вясёлка» (1991), «Вершы Натальцы» (1998), «Смяшынкі» (2009) і іншыя. Асабліва папулярныя на Беласточчыне яго вершы-смяшынкі, якія аўтар пастаянна друкуе на старонках беларускага тыднёвіка «Ніва». Як сказала неяк Тэрэза Занеўская, у смяшынках Віктара Шведа «быццам у люстры, адбіваюцца з'явы штодзённага жыцця і цэлае багацце сітуацый, якое яно нясе з



сабой». Героямі вершаў-смяшынак паэта з'яўляюцца дзеці, дарослыя, жывёлы, з'явы прыроды — усе разам яны захапляюць чытачоў сваім гумарам і настроем. Вось адзін з такіх вершаў-смяшынак:

Пытае мама сынка Колю:
— Як адчуваеш сябе ў школе?
Адказвае сыночак маці:
— Быццам у камісарыяце:
Там, мая мама дарагая,
Усё пытаюць і пытаюць.
Пытаюць часта, надта многа…
А я не ведаю нічога.

Сёння пра творчасць юбіляра можна разважаць доўга. Бо за 90 гадоў перажыта, напісана і надрукавана вельмі шмат. Паэт заўсёды даражыў і даражыць творчай радасцю, верыў і верыць у беларускае слова, яго вялікія магчымасці і дзейсную сілу.

*2015, сакавік*

## Адплываць з Мора яшчэ рана

*Віктар Швед. Адплываем з Мора. Беласток, 2010*

Роднай вёсцы Мора, што на Беласточчыне, паэт Віктар Швед прысвяціў шмат шчырых паэтычных радкоў. Так міла і хораша ён апеў Мора, як Алег Лойка свой родны Слонім, як Рыгор Барадулін сваю Ушаччыну, як Янка Купала апеў Беларусь. У новым паэтычным зборніку «Адплываем з Мора», які нядаўна, дзякуючы праграмнай радзе тыднёвіка «Ніва», пабачыў свет у Беластоку, аўтар зноў вяртаецца да Мора, да сваіх землякоў, сваякоў і сяброў. Прачула, адклікаючыся самымі чыстымі глыбінямі душы, гучаць вершы Віктара Шведа, якія так ці інакш звязаныя з родным бацькоўскім гняздом, з маленькай радзімай, з аднавяскоўцамі.

Але на гэты раз у радках і між радкамі паэта адчуваецца ўзрушанасць, трывога, нейкі жыццёвы адчай. Ды і назва зборніка таксама самотная — «Адплываем з Мора». Хаця мы добра ведаем і разумеем, што ўсё проста ў гэтым свеце: адны нараджаюцца — іншыя паміраюць, такое яно жыццё, такі закон прыроды:

Маланкава імкнуць гады,
Нясуць світанні і змярканні.
Нас накіроўваюць туды,
Адкуль ужо няма вяртання.

Па вялікім рахунку, у цэлым зборнік багаты па настраёвасці, шчыры і непасрэдны па гучанні. Магчыма, менавіта творчасць гэтага паэта сёння можа служыць пераканальным пацвярджэннем, калі гэта каму спатрэбіцца, як шмат значыць у агульным фарміраванні асобы звычайная шчырасць пачуцця. Здаецца, шмат якія сур'ёзныя творчыя ўдачы і дасягненні аўтара маюць сваёй падасновай здзіўляючую здольнасць адкрывацца на праявы жыцця перш за ўсё рэакцыяй сардэчнай шчырасці. Шчыры паэт у жыцці, шчыры ў сваёй вершаванай творчасці. І адкрыцці яго вельмі простыя, зразумелыя, гістарычна-апісальныя, немудрагелістыя. Ён не можа мудрагеліць, бо ўсё жыццё паэта было няпростым і нялёгкім, пра гэта распавядаецца ў вершах, як у падручніках па беларускай гісторыі.

Зборнік Віктара Шведа «Адплываем з мора» — гэта найперш аўтабіяграфічная кніга. З яе любы чытач даведаецца, што бацька паэта быў царскім салдатам, які некалі ўцёк з палону і застаўся жыць. Потым бацька збіраўся эміграваць у Аргенціну, каб зарабіць грошай, але ён быў няздольны да цяжкой працы, бо кульгаў. Чытаючы вершы, лёгка можна даведацца, што маці паэта вельмі шмат працавала, што мама, седзячы, драмала, што яна мала спала, а цяпер «працай змучаная мама на пагосце, пад крыжамі спіць спакойна сном трывалым…» і г. д. А далей мы даведаемся пра родную сястру Ніну і брата Пецю, якіх ужо няма на гэтым свеце.



Зборнік «Адплываем з Мора» — гэта гісторыя беларускага Падляшша і яго людзей. Паэта хвалюе, што беларусы Беласточчыны ўжо сталі панамі, што толькі дзетак «горстачка малая ў Беластоку вывучае сваю мову» і што дзякуючы тыднёвіку «Ніва» паэт заўсёды быў шчаслівы, бо менавіта ў «Ніве» — «майго ўсяго жыцця адбітак».

Зборнік «Адплываем з Мора» — гэта кніга прысвячэнняў пры свячэнні. Як пісаў Сяргей Панізнік, «каб жылі мы ў пасвячэнні, што і нашыя імёны ўзгадаюць пры свячэнні». Віктар Швед шчыра прыгадвае ў вершах слаўныя імёны беларусаў Польшчы, з якімі быў знаёмы, сябраваў, тварыў беларушчыну. Гэта і прафесар Васіль Белаказовіч, і журналістка Ада Чачуга, гэта Кастусь Майсеня, Янка Крупа, Зінаіда Навіцкая і іншыя. Шмат шчырых радкоў паэт з Мора прысвяціў сваім сябрам па пяры, сябрам па жыцці — Дзмітрыю Шатыловічу, Алесю Барскаму, Міраславе Лукшы, Аліне Ваўрынюк, Басі Пякарскай, Міхасю Хмялеўскаму, Уладзіміру Юзвюку, Уладзіміру Наумюку, Пятру Гагану ды іншым.

Зборнік «Адплываем з Мора» — гэта кніга лёсаў. Лёсаў беларускай сям'і, роднай вёскі, краіны. Паэт неабыякавы да гэтых лёсаў. Ён сам шмат перажыў, пабачыў, ведае. Віктара Шведа, як і любога беларуса, найбольш хвалюе лёс краіны і роднай мовы. Паэт пытаецца ў сябе і ў чытачоў:

Чаму Беларусь рускамоўная,
Калі маем уласную мову?

Сапраўды: чаму?.. І ў той жа час аўтар верыць, што «герб наш абаронім і сцяг наш бел-чырвона-белы».

Калі я пішу пра шчырасць новага зборніка Віктара Шведа, гэта не значыць, што паэзія шчырага выпявання, простых вобразаў заўсёды просценькая па змесце. Ёсць прастата, непасрэднасць і звычайнасць, якія зусім не супрацьпаказаны адлюстраванню складаных і глыбокіх зрухаў чалавечага быцця. У вершах Віктара Шведа за прастатой не адзін раз адкрываецца сапраўдная інтэлектуальнасць у адчуванні і ра-

зуменні рэчаіснасці. Яна ўмее пранікаць праз простае аблічча рэчаў у глыбокую сутнасць спраў чалавека, як, напрыклад, у вершах «Наш Новы Запавет», «Адплываем з Мора», «Этапы прамінання», «Мала мама спала» і іншыя. Зусім простыя вобразы ў гэтых і іншых вершах нясуць часта багацце ўзнёслага зместу, філасофію глыбокага напаўнення. А ўнутраная прывязанасць паэта да вобразных утварэнняў, блізкіх да простага ладу беларускага жыцця, моцная і відавочная. Але нельга сказаць, што ва ўсёй паэзіі Віктара Шведа глыбокі філасофскі змест выяўляецца толькі ў, простых формах мастацкага мыслення. Не, у новым зборніку нямала складаных мастацка-стылёвых вырашэнняў, у якіх выявілася імкненне паэта данесці да чытача плён напружанага філасофскага роздуму над светам. Нярэдка сустракаюцца спробы абагульніць у паэтычных вобразах сам ход гістарычнага працэсу, няпростую злучанасць з гэтым працэсам сучасных намаганняў беларусаў. У багатым спектры светаадчування паэта, бадай, найбольш ярка і акрэслена вылучаюцца тры скразныя паэтычныя матывы — сям'я, любоў да працы, яе ўслаўленне і любоў да Радзімы, да бацькоўскай зямлі:

Не магу я заснуць цвёрдым сном,
Не магу я самкнуць свае вейкі.
На сасне за пакоя акном
Так прыгожа пяе салавейка…

Адзін з раздзелаў кнігі прысвечаны гумару, ён так і называецца — «Аб жыцці шчыра ў святле гумару і сатыры». Я прачытаў з усмешкай гэты раздзел і прыйшоў да высновы, што Віктар Швед — добры гумарыст. Вось дыялог двух літаратараў: Сакрата Яновіча і Віктара Шведа. Яновіч часта пытае ў Шведа: чаму ён так доўга жыве? На што аўтар адказаў вельмі арыгінальна:

Як зразумець акурат
Думкі Сакрата, паверце,



Каб жыць мог Яновіч Сакрат
Ці ж Віктар павінен памерці?..

Прачытаўшы мой водгук пра кнігу Віктара Шведа, шаноўны чытач запытаецца: няўжо ў новай паэтычнай кнізе Віктара Шведа ўсё так добра і гладка? Вядома ж, не. Як і ў кожнага аўтара, так і ў новай кніжцы беластоцкага паэта ёсць сякія-такія і недахопы, але іх няшмат. Ну, напрыклад, у вершы «Аўтамабільнае крушэнне» чытаю:

Пагас электрычны стоўп,
Навокал людзей натоўп.

Правільна і па-беларуску будзе «патух электрычны слуп», а слова «стоўп» у беларускай мове няма, у рускай мове ёсць слова «столб». А калі замяніць слова «стоўп» на слова «слуп», то ўжо губляецца рыфма са словам «натоўп».

Ці першы радок верша «Мы шагаем па родным краю…». Чаму «шагаем»? Ёсць добрае беларускае слоўка «крочым», а «шагаць» — гэта рускае слова.

Я прывёў тут некалькі моўных хібаў зборніка «Адплываем з Мора», але, яшчэ раз падкрэслю, іх няшмат. Таму ад душы прызнаюся, і гэта не будзе перабольшаннем, што ўся кніга вершаў Віктара Шведа «Адплываем з Мора» пакідае адчуванне вялікай, напружанай і пастаяннай работы. Працавітасць паэта найбольш бачыцца ў ягонай лёгкасці і дакладнасці радка, у нечаканасці і змястоўнасці вобраза. Шмат якія вершы нейкім дзіўным, ледзь-ледзь улоўным эмацыянальным акцэнтам даюць адчуць, што яны ствараліся аўтарам з любоўю, што сама творчая праца прыносіць паэту велізарную радасць. Так што, шаноўны спадар Віктар, вам адплываць з Мора яшчэ рана. Жывіце, пішыце і радуйце нас, чытачоў, сваім паэтычным словам.

*2010*



*Віктар Швед і Міра Лукша*



*Віктар Стахвюк і Віктар Швед*



*Віктар Швед, Дзмітры Шатыловіч і Васіль Петручук*



*Георгій Валкавыцкі, Віктар Швед, Юрый Баена і Юрка Буйнюк*

## Беласточчына ў паэзіі Віктара Шведа

Беларуска-беластоцкі аўтар Віктар Швед застаецца прыхільнікам традыцыйнай паэзіі, якая ў спадчыну нам дасталася ад Янкі Купалы і Якуба Коласа. Паэт ён просты, шчыры, зразумелы і нацыянальны. Як ніхто іншы з беларускіх паэтаў Польшчы, Віктар Швед шмат сваіх рыфмаваных радкоў прысвяціў роднай Беласточчыне. У 2000 годзе ў Мінску ў «Беларускім кнігазборы» выйшаў ладны том твораў беларускіх пісьменнікаў Польшчы, укладальнікам якога быў Ян Чыквін. Хто-хто, а Ян Чыквін разбіраецца ў паэзіі, можа нават лепш за ўсіх нас. Дык вось ён у гэтую кнігу ўключыў 26 вершаў свайго земляка. Сярод іх — класічна-хрэстаматыйны верш Віктара Шведа «Скажу, бывала: еду да бацькоў». Ну, дзе вы чыталі раней такі чулліва-пяшчотны верш?.. Верш, які аўтар прысвяціў усім нам, верш, які будзе чытацца заўсёды:

Скажу, бывала: еду да бацькоў,
І родзіцца ў душы настрой прыўзняты,
Што вось убачу іх, старых, ізноў
І прывітаю на парозе хаты
Скажу я сёння: еду да бацькоў,
І цэлы свет становіцца нямілы.
Стаю маўклівa я ля двух крыжоў,
Што там вартуюць родныя магілы.

Вёсцы Мора Гайнаўскага павета, дзе нарадзіўся паэт, аўтар прысвяціў цэлую вязанку сваіх радкоў. То гэта сум па роднай вёсцы, якая жыве ў яго марах і снах, то гэта сустрэча з роднаю вёскай, дзе цешыцца надзвычай сэрца, а студня поіць вадою, якая п'ецца са смакам, дзе аўтар шчыра прызнаецца: «Я ж тут бываю толькі госцем». А верш «Вёска Мора» — гэта верш-сон. Паэт апісвае тое, што часта сніцца яму. А сніцца яму, што ён арэ поле і нялёгка ўтрымаць малому плуг. І сніцца, што паэт ідзе раніцай касіць луг, а пасля сніцца ток, калі з бацькам там зімою малацілі авёс, а потым бачыцца ў сне



той момант, калі маці пячэ хлеб, а дзеці яго са смакам ядуць. Сённяшнія паэты такога не напішуць. Гэта трэба перажыць, пабачыць, зведаць. Гэта было, гэта наша гісторыя, і сведкам яе з'яўляецца Віктар Швед, калі апісвае сваю вёску. Няхай гэтыя вершы апісальныя, інфармацыйныя, але яны праўдзівыя, дасканалыя ў гістарычных фактах.

Больш за ўсё сваіх паэтычных радкоў, прысвечаных вёсцы Мора, паэт змясціў у зборніку «Родны схоў» (Беласток, 1991). Гэта зборнік-прысвячэнне роднаму схову — вёсцы, дзе часта згадваюцца маці з бацькам, пра якую аўтар кажа: «Мая маленькая айчына, мой беластоцкі родны край».

Віктар Швед — паэт вёскі. Ён не раз аб гэтым пісаў, казаў, у гэтым прызнаваўся. Ён вясковы лірык, які шчыра і хвалююча можа весці размовы і са сваімі равеснікамі, і з моладдзю, і з самымі маленькімі слухачамі і чытачамі. Паэт так праславіў сваю вёску і сваіх землякоў, што не паверыць у гэта праслаўленне проста немагчыма. Вёска Мора для паэта — святое. І куды там гораду да вёскі:

Даўно я выйшаў з вёскі Мора,
У маладым яшчэ жыцці,
Іду я пастаянна ў горад
І не магу ніяк дайсці.

Але абмяжоўвацца адным Морам, сваімі бацькамі і аднавяскоўцамі Віктар Швед не спрабуе. Ёсць у яго арыгінальны верш «З падарожжа», які Ян Чыквін таксама ўключыў у мінскую кнігу «Беларускія пісьменнікі Польшчы»:

— Цёзка,
Вы з вёскі?
— Не, пане,
Мы сяляне.
— Тады, дружа,
Вы адкуль жа?
— Мы, пане,
Мяшчане.

— А хто вы
Па мове?
— Мы, пане,
Беластачане.

Пра беластачанаў і Беласточчыну ў Віктара Шведа таксама напісана шмат. Паэтычныя радкі ён прысвяціў і прысвячае амаль усім сваім слынным землякам, беларускім арганізацыям і калектывам, значным падзеям Беласточчыны і г. д. З цікавасцю, няхай і не ўсе радкі роўныя ў мастацкіх адносінах, чытаю строфы, прысвечаныя настаўнікам і вучням Бельскага беларускага ліцэя імя Браніслава Тарашкевіча, актывістам БГКТ, Гарадоцкаму мастацкаму калектыву, супрацоўнікам «Нівы», Валянціне Тэрлецкай, Алесю Барскаму і многім іншым. Чытаю верш «Зярняты роднай мовы сеем», прысвечаны Алесю Барскаму:

Ад гулкіх вуліц Беластока
Да стромкіх сосен Белавежы,
Сваёй Радзімы сінявокай
Прайшлі мы, дружа, многа сцежак.

Апісваючы гулкія вуліцы Беластока і стромкія сосны Белавежы, Віктар Швед разам з тым настальгуе па пражытых гадах, хаця верш моцны ёмістасцю паэтычных дэталяў, упэўненасцю і радасцю, што заўсёды ў жыцці паэтаў была і застаецца Беласточчына.

Адначасова з прызнаннямі ў любові да Беласточчыны, паэт у многіх вершах, ды і ў жыцці таксама, заўсёды з гонарам кажа, што ён беларус. Але які беларус без Белавежскай пушчы, без трэляў салаўёў, без Падляшша. Вось як гучыць прызнанне паэта:

Падляшша, роднае Падляшша,
Мая маленькая Айчына!
Гасцінная зямелька наша,
Прымі, прымі паклон ад сына.



Чытаючы вершы Віктара Шведа, прысвечаныя Беласточчыне, заўважаеш, што яны моцныя сімволікай роднай вёскі Мора, зямлі, мовы, жыта, ветрака, соснаў, Белавежы, сноў. Без іх не пісалася б паэту, не было б паэта Шведа, які найбольш з усіх беларускіх паэтаў Польшчы хораша і светла апявае сваю Беласточчыну.

У 2008 годзе 2 лютага споўніцца 170 гадоў з дня нараджэння нацыянальнага героя Беларусі, кіраўніка паўстання на Беларусі ў 1863–1864 гадах Кастуся Каліноўскага (1838–1864), які быў родам з вёскі Мастаўляны, што на Беласточчыне. Паэт піша верш «Кастусю Каліноўскаму» і прысвячае яго будаўнікам Дома культуры імя Кастуся Каліноўскага ў Гарадку. Верш напісаны даўно, але і сёння ён чытэльны, мае гістарычную афарбоўку:

З бацькоўскай вёскі Мастаўляны
Мо і не раз праз Гарадок
Ішоў з наборам палымяным
«Мужыцкай праўды» ў Беласток.
Аддаў жыццё за наша шчасце,
За волю, роўныя правы.
Адкрыты нашы сэрцы насцеж —
У іх Кастусь заўжды жывы.

У 2000 годзе ў Беластоку асобнай кнігай выйшлі «Выбраныя вершы» Віктара Шведа. Аўтар іх расклаў па раздзелах, з якіх тры — цалкам прысвечаны Беласточчыне і яе людзям. І аўтар правільна зрабіў. Кніга зноў вяртае чытачоў на вясковую Беласточчыну і ў сам Беласток. З сумам Віктар канстатуе факт, што на Бацькаўшчыне паміраюць вёскі, паміраюць аселіцы і травой зарастаюць палоскі. Там:

Дзе дрэва старое, дзе студня —
Бясследна і без пары
Памерлі Лука і Рудня,
І Боўтрыкі, і Гарбары.

Але ёсць яшчэ:

Даброўшчына, Сакольшчына!
Я многа меў пашаны
У Ячне, у Талькоўшчыне,
Сынкоўцах, Крушынянах.

Хвалюе аўтара і тое, што беларускія вёскі на Беласточчыне становяцца польскамоўнымі, таму для беларусаў яны хутка могуць стаць чужымі.

Калі вёскі паціху знікаюць, то з кожным годам прыгажэе Беласток. Вельмі прыгожа, па-шведаўску міла, ладна і добразычліва паэт апеў гэты горад, свой горад, дзе ўсё да драбніц знаёма, дзе аўтар тут творча прапісаны назаўсёды:

Цешыш сэрца і цешыш наш зрок
Ты, малое айчыны сталіца.
Беласток, родны наш Беласток,
Будзем вечна табой ганарыцца.

*2008*

## Адпачыў душою і сэрцам

Даўно я не сустракаўся з беластоцкім беларускім паэтам Віктарам Шведам. І вось гэтая сустрэча адбылася ў Мінску на III З'ездзе беларусаў свету. Улюбёны ў свой край і апантаны паэзіяй Віктар Швед не пастарэў ні знешне, ні душой. А яшчэ ён прывёз у Беларусь свой новы зборнік «Выбраныя вершы», які выйшаў з друку ў Беластоку ў 2000 годзе.

Скажу шчыра, для паэтычнай беларускай Беласточчыны Віктар Швед з'яўляецца аксакалам. Усё сваё свядомае жыццё ён думае і піша па-беларуску. Шчырасцю, прастатою і задуменнасцю авеяна яго паэтычная ніва. Няма ў яго паэзіі нейкай фанабэрыстасці, выбрыкаў, пагоні за модаю. Аўтар верны словам Вергілія, які сказаў, што ён не імкнецца ахапіць сваімі вершамі ўсё, прытым рашуча ўсё.



Віктар Швед піша пра тое, што перажыў, што хвалявала яго і хвалюе, піша пра людзей і найперш пра Беларусь:

Тут першы крок і першая сцяжына,
І першая за плугам баразна.
Тому і дарагая мне айчына —
Мая рака без берагоў і дна.

Айчына для паэта пачынаецца з маленькай радзімы — з Мора, з Зубровіі, з Дуброўшчыны і Сакольшчыны, з дарагога сэрцу Падляшша. Адсюль пачынаецца і яго дарога ў краіну Паэзію. Менавіта зялёная Зубровія, святыня пушчы Белавежскай натхнялі і натхняюць Віктара Шведа на паэтычную творчасць. Трэба моцна любіць Бацькаўшчыну, каб напісаць такія радкі:

Я клянуся: не зракуся
Сваё роднае любіць.
Быў і буду беларусам,
Пакуль толькі буду жыць!

Чытаючы «Выбраныя вершы» , звярнуў я ўвагу на адзін з раздзелаў кнігі пад назвай «Абраднасць наша святая». Мне цяжка прыгадаць іншага беларускага паэта, які б вершамі даволі цікава расказаў пра народныя беларускія святы так, як гэта зрабіў Віктар Швед. Пачынаючы ад Каляд і калядоўшчыкаў, працягваючы Вадохрышчам, Грамніцамі, Вербніцай, Вялікаднем, Ушэсцем, Спасам, Успеннем і канчаючы Іллём, паэт стварыў своеасаблівы паэтычны беларускі каляндар. Прыгожа, ці не праўда, гучаць радкі пра Вербніцу:

Калі ж у Вербніцу
Нас б'юць вярбою —
Няхай нам верыцца,
Каб збыцца мроям.

Ці, напрыклад, пра Грамніцы:

Адводзяць Грамніцы
Грамы, бліскавіцы,
Пажар, градабоі
І ўсё, што ліхое.

Прадмову да кніжкі Віктара Шведа напісаў Яўген Міклашэўскі. Яна называецца «Душа паэта». Добры загаловак. Бо душа ў Віктара Шведа — шчымлівая, добрая і светлая, як і самі вершы, якія чытаюцца і запамінаюцца. Таму я не планаваў напісаць нейкую рэцэнзію ці грунтоўны агляд новай кнігі паэта, я проста, прачытаўшы яго вершы, адпачыў душою і сэрцам.

*2001*

## «Не пакідаюць мяне мары…»

*— Спадар Віктар, што найчасцей прыгадваецца Вам напярэдадні Вашага 85-годдзя?*

— Заглыбляючыся ва ўспаміны, прыгадваю свой шлях у літаратуру. Пачаткі майго існавання былі вельмі складаныя. Паколькі я меў сур'ёзную хваробу вачэй — трахому, вымушаны быў сядзець у цемры, у дзедавай хаціне, дзе малыя акенцы былі шчыльна завешаныя дзяружкамі. І толькі ў чатырохгадовым узросце ўпершыню змог я ўбачыць белы свет, які зачараваў мяне да такой ступені, што не мог я не ўсхваляць гэтага чароўнага свету. Таму яшчэ ў дашкольным узросце, пасвіўшы з вясковымі жэўжыкамі каровы, паўтараў я з памяці рыфмаваныя куплеты ў мясцовай гаворцы роднай вёскі Мора, што пад Белавежскай пушчай, чым здзіўляў сваіх сяброў.

Будучы вучнем пятага класа польскай пачатковай школы ў мястэчку Орля, пачаў я пісаць вершы на польскай мове. Пазнаёмілася з імі настаўніца Галена Ціжэхова і ўпершыню назвала мяне «паэтам».



Падчас савецкай улады ў школьныя 1939–1941 гады быў я ў мястэчку Орля вучнем беларускай дзесяцігодкі, у якой усе прадметы вяліся на беларускай мове, на якой стаў я пісаць вершы і быў скіраваны школай са сшыткам сваіх вершаў на алімпіяду дзіцячай творчасці ў Бельску-Падляшскім.

У пасляваенны перыяд паглыбляў я свае моўныя і літаратурныя веды ў беларускіх школах у Гайнаўцы і ў Бельску-Падляшскім, а пазней — на кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта.

Працуючы рэдактарам у кніжным выдавецтве «Książka i Wiedza» ў Варшаве, я зрэдку друкаваў свае вершы ў сваім перакладзе на польскую мову ў адрыўных календарах, якія выдаваліся мільённымі тыражамі. На жаль, да 1956 года не было ў Польшчы магчымасці друкавацца на беларускай мове, а мы не мелі ў той час аніякіх кантактаў з Беларуссю.

*— Але хутка ў Беластоку пачаў выдавацца беларускі тыднёвік «Ніва»…*

— Пасля «адлігі» ў 1956 годзе польскія ўлады сталі заўважаць у Польшчы існаванне нацыянальных меншасцей. Былі пакліканы да жыцця меншасныя арганізацыі, у іх ліку і Беларускае грамадска-культурнае таварыства і яго друкаваны орган «Ніва» ў Беластоку. Уключыўся я ў арганізаванне беларускага культурнага жыцця, навязаў кантакт з нашым беларускім тыднёвікам і ў 1957 годзе стаў яго штатным рэдактарам. Нічога тады дзіўнага, што на той час прыпадае мой спознены творчы дэбют. Трэба было навярстаць страчаны час, і таму я да сёння друкуюся ў «Ніве», ужо апублікаваў там звыш 2500 сваіх вершаў.

*— А што сабой уяўляла беларускае літаратурнае жыццё ў Польшчы ў сярэдзіне XX стагоддзя?*

— У нашым беларускім літаратурным асяроддзі найстарэйшым з'яўляецца былы галоўны рэдактар «Нівы» Георгі Валкавыцкі, па ўзросце пасля ўжо я. Выдаў я дагэтуль 15 паэтычных зборнікаў, пяць з іх ліку выйшла ў маім перакладзе

на польскую мову. Жыў я і працаваў у Варшаве сорак гадоў, і праз гэты перыяд з'явілася толькі тры мае паэтычныя кніжкі. Ніхто мяне не здолеў вырваць з беларускага грунту на Беласточчыне, так глыбока запусціў я тут свае карэнні. Таму не дзівота, што жывучы ў Варшаве, я пастаянна ўслаўляў сваю малую айчыну — Беласточчыну, а варшаўскай тэматыцы прысвяціў невялікую частку сваіх твораў. Каб не адчуваць сябе адзінокім у польскім асяроддзі, працаваў я ў Варшаўскім аддзеле БГКТ. Аддзел налічваў каля 300 сябраў, у палове былі гэта студэнты вышэйшых навучальных устаноў Варшавы. Арганізавалі мы клубную культурна-асветную працу, праводзілі лекцыйную дзейнасць з беларускай тэматыкай. Наладжвалі аўтарскія сустрэчы з беларускімі і польскімі пісьменнікамі, якія пражывалі ў Варшаве, і з пісьменнікамі Беларусі, якія наведвалі Варшаву. Адбыліся сустрэчы з Максімам Танкам, Пятром Глебкам, Уладзімірам Караткевічам, Адамам Мальдзісам, Алегам Лойкам, а таксама з многімі навуковымі супрацоўнікамі з Беларусі. У сваім зборніку «Мае айчыны» сцвярджаю, што я надта багаты, маю аж тры айчыны: Польшчу, якая мяне ўзгадавала, адукавала і дала працу, Беларусь, якая мяне натхняе да творчай дзейнасці, і малую айчыну — Беласточчыну, якую я ўслаўляю ў сваіх вершах, якая з'яўляецца маёй калыскай і будзе неўзабаве маім спачынам. Толькі ў пенсійны перыяд я пераехаў на Беласточчыну, дзе і разгарнуў свае крылы, выдаўшы аж дванаццаць сваіх паэтычных кніжак!

*— Спадар Віктар, Вы шмат напісалі твораў і для дзяцей.*

— Нягледзячы на тое, што меў я ў жыцці надта складанае дзяцінства, люблю вяртацца ў сваіх успамінах у перыяд дзяцінства і маладосці і надта люблю не толькі сваю дачушку Наталку, якой прысвяціў цэлы том вершаў, але таксама ўсіх мілых дзетак, да якіх скіраваў аж шэсць сваіх кніжак. Беручы пад увагу першыя два зборнікі, у якіх знайшліся таксама раздзелы вершаў для дзяцей, магу з упэўненасцю сцвердзіць, што палова маёй паэтычнай творчасці належыць



маладому пакаленню. Адна тысяча праведзеных мною ў беларускім асяроддзі на Беласточчыне аўтарскіх сустрэч — гэта ў большасці сустрэчы са школьнай моладдзю. Мая паэзія для дзяцей вядомая таксама і ў Беларусі, дзе з'явіўся ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» ў 1976 годзе ў Мінску мой зборнік для дзяцей «Дружба» з прыгожымі каляровымі малюнкамі і неймаверным накладам ажно 50 тысяч экзэмпляраў! Надта цешуся, што мае вершы для дзяцей уключаюцца і ў Беларусі ў дзіцячыя анталогіі.

*— З кім з літаратараў з Беларусі сябравалі і сябруеце сёння?*

— Да болю патрэбныя мне кантакты з Беларуссю, з яе творчым асяроддзем. Патрэбныя размовы з людзьмі, літаратурныя навінкі. Першы раз пабываў я ў Мінску ў 1957 годзе, калі вяртаўся з Масквы з сёмага Міжнароднага фестывалю моладзі і студэнтаў. Вельмі папулярная ў той час у Беларусі была цёця Уладзя, жонка Янкі Купалы. Яна прыняла мяне вельмі сардэчна і пазнаёміла з Купалаўскім музеем у Мінску. Быў я знаёмы з таленавітымі беларускімі пісьменнікамі, якія ўжо адышлі ў вечнасць: Ларысай Геніюш, Канстанцыяй Буйла, Максімам Танкам, Уладзімірам Караткевічам, Пятром Глебкам, Піліпам Пестракам, Алесем Адамовічам, Янкам Брылём, Алегам Лойкам, Аляксеем Карпюком, Барысам Сачанкам і Аляксеем Гардзіцкім. Вельмі добра ўспрымаю кантакты з Вольгай Іпатавай, Нілам Гілевічам, Рыгорам Барадуліным, Генадзем Бураўкіным, Васілём Зуёнкам, Уладзімірам Казберуком, Уладзімірам Някляевым, Янкам Саламевічам, Сяргеем Панізнікам, Іванам Пташнікавым, Сяргеем Законнікавым, Анатолем Вярцінскім. У сардэчных адносінах знаходжуся з выхадцам з Беласточчыны Яўгенам Міклашэўскім, які быў рэдактарам трох маіх зборнікаў. Адам Мальдзіс напісаў сцэнарый да тэлефільма аб маёй творчасці, апрацаванага Мінскім тэлебачаннем у 1990 годзе. Знаёмы я таксама з многімі пісьменнікамі суседняга Гродна. Юрка Голуб апублікаваў інтэрв'ю са мною на старонках

«Гродзенскай праўды», Марыя Шаўчонак апрацавала тэлефільм з нагоды майго сямідзесяцігоддзя і прысвяціла мне верш. Цешуся, што ў апошнія гады бываю ў Беларусі даволі частым госцем.

Сустракаўся я ў сваім жыцці з цікавымі і таленавітымі беларусамі. Прывозіў я з чэхаславацкай Прагі на гастролі на Беласточчыну славутага спевака Міхася Забэйду-Суміцкага. Ездзіў у Вільню да вядомага беларускага мастака Пятра Сергіевіча і апублікаваў у «Ніве» абшырную працу аб яго карцінах. Знаходзячыся ў Маскве, адведаў я таленавітую паэтку Канстанцыю Буйла, з якою правёў размову для «Нівы». Падпісала яна мне свой паэтычны зборнік «Май» з прысвячэннем: «Віктару Мікітавічу Шведу на добры ўспамін. Масква, 10 студзеня 1984 г.». Цешуся, што яшчэ ўбачыўся з паэткай перад яе адыходам у вечнасць. Хачу прыгадаць, што яе верш «Люблю наш край» стаўся беларусам Беласточчыны народным гімнам, які спяваецца на ўсіх нашых культурных урачыстасцях. Пазнаёміўся я таксама з вядомым беларускім пісьменнікам Васілём Быкавым, які знаходзіўся ў складзе беларускай урадавай дэлегацыі, якая наведала Беласток у 1993 годзе. Паразмаўлялі мы сардэчна, і я падпісаў пісьменніку свой паэтычны зборнік «Родны схоў».

*— Некалькі слоў скажыце і пра Беларускае літаратурнае аб'яднанне «Белавежа».*

— Наша творчая арганізацыя, Беларускае літаратурнае аб'яднанне «Белавежа» адсвяткавала ўжо пяцідзесяцігоддзе сваёй дзейнасці. Актуальна дзейсных у арганізацыі дваццаць асоб, якія маюць свае індывідуальныя зборнікі. З'явілася дагэтуль звыш 200 кніжак, 7 альманахаў і 12 гадавікоў «Тэрмапілаў». 8 «белавежцаў» з'яўляюцца сябрамі Саюза польскіх пісьменнікаў і Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Беларускае літаратурнае аб'яднанне «Белавежа» — гэта адзіная па-за межамі Беларусі творчая арганізацыя са знакам шматгадовай нацыянальнай духовай культуры. Сучасная Польшча з'яўляецца краінай дзвюх літаратур: польскай і беларускай. Таму беларуская літаратура Польшчы належыць як польскаму, так і беларускаму кантэксту. Польскія літаратурныя крытыкі сцвярджаюць, што «Белавежа» з'яўляецца найстарэйшай і з найбольшымі творчымі дасягненнямі літаратурнай групай у краіне.



*— А з творамі мастацкай літаратуры пісьменнікаў Беларусі знаёміцеся?*

— Нягледзячы на слабыя вочы, прачытаў я ў жыцці вельмі многа кніжак з мастацкай літаратуры. Будучы студэнтам Кафедры беларускай філалогіі, прачытаў я ўсе кніжкі, якія знаходзіліся ў бібліятэцы Варшаўскага аддзела БГКТ і ў арыгінале асноўную рускую класіку. Будучы на журналістыцы, прачытаў я кніжкі, прызначаныя для абавязковага чытання з еўрапейскай і амерыканскай мастацкай літаратуры. Знаёмлюся актуальна з польскай мастацкай літаратурай, асабліва з паэзіяй, якую выбарачна перакладаю на беларускую мову. Але вельмі шкадую, што ў апошнім часе замала атрымліваю беларускіх літаратурных навінак з Беларусі.

*— Над чым працуеце цяпер?*

— Пачаў я ўжо пакрысе падсумоўвацца ў сваё 85-годдзе. Нягледзячы на свае пажылыя гады, не пакідаюць мяне яшчэ мары. Мроіцца напісаць крыху новых вершаў, бо, сапраўды, ёсць аб чым пісаць. Хочацца яшчэ працягнуць закончаныя на нашай польскай «адлізе» ўспаміны з даволі доўгага і скамплікаванага, аднак цікавага жыцця, бо ніхто гэтага за мяне не зробіць. Хачу сказаць, што рыхтую ў друк чарговы, можа, ужо апошні свой паэтычны зборнік для дарослых. Змяніў я загаловак зборніка, таму што агарнуў мяне сум. Канчаецца ў маім Моры род Шведаў. Адышлі ў вечнасць мае бацькі, сястра Ніна і брат Пётр. Застаўся толькі я — як апошні магікан. У зборніку многа вершаў аб прамінанні. Выбраў я сімвалічны яго загаловак «Адплываем з Мора».

*2010*

## «Я яшчэ творча не памёр...»

*— Спадар Віктар, якім для Вас быў 2010 год у жыцці і творчасці?*

— Адсвяткаваў я са сваімі сябрамі юбілей 85-годдзя з дня майго нараджэння. Не надта ўжо вясёлая гэта дата, калі чалавек становіцца недалужным старэчам. Варта прыгадаць, што на гэтай сустрэчы польскамоўны паэт з Варшавы Францішак Кабрыньчук выступіў са змястоўнай панегірычнай паэмай, прысвечанай маім творчым дасягненням, а Аб'яднанне АБ-БА падрыхтавала дыск з песнямі на мае словы пад загалоўкам «Васількі-валошкі».

Год 2010 быў для мяне багаты ў паэтычнай творчасці, асабліва ў галіне перакладаў. На польскую мову пераклаў я звыш дваццаці вершаў Пушкіна, Лермантава, Ясеніна, Бродскага, Ахматавай, Цвятаевай і іншых, менш папулярных паэтаў, да абшырнага (350 старонак) расійска-польскага альбома, прысвечанага Багародзіцы, які ўжо выйшаў з друку.

Пераклаў я на беларускую мову гукавую дарожку да дакументальнага фільма Яўгена Шпакоўскага «Чэслаў Немэн», які ў верасні дэманстраваўся ў Мінску.

Таксама на беларускую мову пераклаў я паэму Францішка Ляхоцкага «Палессе». Дзякуючы Дарафею Фіёніку, кіраўніку Аб'яднання Музей Малой Бацькаўшчыны ў Студзіводах, паявілася двухмоўная, польска-беларуская кніжка з гэтай паэмай. Прамоцыя кніжкі адбылася 9 кастрычніка ў Пружанах, у якіх пражываў аўтар паэмы. Шкадую, што не мог прысутнічаць на гэтай урачыстасці, знаходзячыся тады ў беластоцкім шпіталі.

Падрыхтаваў я другое, пашыранае выданне двухмоўнай польска-беларускай кніжкі паэтэсы Аляксандры Шэвелы «Supraskiej duszy śpiewanie» — «Супрасльскай душы пяянне». Першае і другое выданне кніжкі перададзена бясплатна Праваслаўнаму манастыру ў Супраслі.



Маючы на ўвазе польскамоўных чытачоў, перакладаю я свае беларускія вершы на польскую мову. Мае «Смяшынкі» паявіліся ў гэтым годзе на польскай мове: Wiktor Szwed «Śmieszynki», Białystok, 2010 г.

Падрыхтаваў я таксама да выдання свой чарговы паэтычны зборнік «Адплываем з Мора», які на днях выйдзе з друку. Напісаў шмат новых вершаў да гэтага зборніка. Загаловак кніжкі невыпадковы. Паўміралі мае бацькі, сястра, брат. Астаўся я адзін з роду Шведаў, як апошні магікан.

Мая вельмі напружаная творчая праца спрычынілася да мазгавога ўдару, які наступіў першага кастрычніка. Страціў мову і свядомасць. Два тыдні праляжаў у шпіталі. Мая вядучая лекар сказала перад маім адыходам дахаты: «Miał pan wielkie szczęście». Хвароба адступіла амаль бясследна. Вярнуўся зноў да творчай працы.

*— Што чакаеце ад Новага 2011 года?*

— Неўзабаве надыдзе Новы 2011 год. У першую чаргу хачу ў ім вярнуцца да сваіх успамінаў, якія завяршыліся 1957 годам, перыядам нашай польскай «адлігі» і вельмі істотных зменаў у краіне. Галоўнае — што нашыя дзяржаўныя ўлады ўрэшце прыкмецілі існаванне ў Польшчы нацыянальных меншасцяў. З'явіліся нам, беларусам, магчымасці друку ў новапаклікананай да жыцця беларускамоўнай «Ніве», на старонках якой друкуюся да сёння. Чакае мяне вялікая праца: падсумаваць свае творчыя і жыццёвыя дасягненні на працягу мінулага паўстагоддзя. Хочацца данесці да шырэйшага кола чытачоў свае роздумы і імкненні, свае поспехі і жыццёвыя паразы. Усе свае ўспаміны з мінулага жыцця мару выдаць пад адной вокладкай. Каб толькі паспець. Нямнога ўжо часу мне засталося. Марыцца мне таксама, каб сабраць і выдаць усе мае паэтычныя тэксты, да якіх напісана музыку і якія сталіся песнямі. Хочацца яшчэ рэактываваць маю пастаянную шматгадовую рубрыку ў «Ніве» «Вершы Віктара Шведа», якая будзе сведчаннем аб тым, што я яшчэ творча не памёр.

*2010*

# Змест



*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Чыгрын** Сяргей Мікалаевіч

**Мора Віктара Шведа**

*Артыкулы і гутаркі*

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактар *А. Спрытніч*
Набор *С. Чыгрына*
Камп’ютарная вёрстка *Л. Гарадзецкай*
Карэктар *А. Спрытніч*

Падпісана ў друк 21.07.2015. Фармат 84x108 $^{1}/_{32}$.
Папера афсетная. Рызаграфія.
Ул.-выд. арк. 1,0. Ум. друк. арк. 1,68.
Наклад 50 асобнікаў. Зак. 305.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ААТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/167 ад 1.10.2014.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.